

# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

**Электронны адрас:** *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 12(694)**
**Сьнежань 2023 г.**

На 27 лістапада традыцыйна прыпадае нашае вялікае нацыянальнае сьвята – Дзень Гераяў. Гэта той дзень, калі пачаўся Слуцкі Збройны Чын 1920-га году, што ўвайшоў у гісторыю Беларусі як прыклад гераічнага змаганьня нашага народу за сваю волю і будучыню. Сапраўдныя сыны зямлі нашай, ваяры-Случчакі мужна паўсталі на няроўны бой са шматтысячнай бальшавіцкай навалай з Усходу. Іх барацьба і сёньня, калі навала з Усходу зноў апанвала краінай, ёсьць прыкладам ахвярнага служэньня ідэалам волі і незалежнасьці Беларусі.

га беларускага насельніцтва, але ім бракавала зброі, рыштунку й амуніцыі. Ішлі зацятыя баі, Слуцкая брыгада вызваліла ад бальшавікоў шэраг вёсак. Але сілы вычэрпваліся, і ў канцы сьнежня 1920 году больш за 1500 беларускіх жаўнераў і афіцэраў перайшлі мяжу на абшар Беларусі зяняты палякамі, і былі інтэрнаваныя.

Здольнасьць выступіць на абарону краіны, сваёй зямлі, сваіх котлішчаў заўсёды ёсьць прыкметай сфармаванага і рэалізаванага народу. Нашыя продкі паказваюць нам сёньня шлях і кірунак змагарных дзеяньняў. Мы ведаем, што сілы тады былі няроўныя, і вынік тэту, а таксама – дабрабыту і посьпеху краіны.

У постсавецкай РБ, як і ў камуністычныя часы, гэтая падзея ўсяляк перакручвался, называлася "праявай антысаветчыны", "вылазкай кулацкіх бандаў", "змаганьнем за папоў и абшарнікаў", а пераважна наўпрост замоўчвалася. Таксама замоўчвалася інфармацыя і пра сам Слуцак – горад Магдэбурскага права, і пра Случчыну – зямлю працавітых і мужных людзей. Але праўда перамагае, і Дзень Герояў – Угодкі Слуцкага Збройнага Чыну – стаў важнай датай беларускага нацыянальнага календара.

# Слуцкі Збройны Чын - 103-я ўгодкі змаганьня

Мы ўшаноўваем усіх, хто на заклік Беларускай Рады Случчыны стаў пад сьцягі змаганьня і на абарону Бацькаўшчыны. У лістападзе-сьнежні 1920 году, сфармаваныя зь сялянаў і месьцічаў беларускія дабраахвотныя вайсковыя аддзелы выступілі ў абарону Беларусі супраць наступаючай Чырвонай арміі бальшавікоў. З Горадні даслалі сьцяг з Пагоняй і вышытым беларускімі жанчынамі надпісам "Тым, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына". Слуцкі й Грозаўскі палкі Слуцкай Брыгады БНР цэлы месяц трымалі гераічную абарону перад расейскай навалай. Няроўнасьць сілаў не зламала змагарны дух. Слуцкая брыгада зрабіла некалькі пасьпяховых атакаў пад мястэчкамі Капыль, Цімкавічы й Вызна. Супраць беларускіх войскаў дзеіла Омская дывізія бальшавікоў. Шмат дзе на амаль стокілямэтровым фронце Капыль-Цімкавічы-Вызна бальшавікі былі змушаныя адступіць. Беларускія ваяры мелі моцную падтрымку збоку мясцовага змаганьня быў адразу вядомы случчакам. Разам з тым яны не пажадалі для сябе іншага лёсу і выйшлі са зброяй у руках "паміраць, каб жыла Бацькаўшчына". Такі прыклад высокай ахвярнасьці і гераізму ёсьць арыентырам у жыцьці й дзенасьці ўсіх тых беларусаў, каму баліць душа за родны край. Менавіта такія людзі складаюць фундамэнт незалежнасьці й сувэрэні-




Гэтая важная гістарычная падзея мусіць быць заўсёды ў нашых сэрцах. Яна зьяўляецца значнай сама па сабе, сваім зьместам барацьбы за волю і незалежнасьць Айчыны. Але сёньня, калі расейская агрэсія катуе вольную Украіну і таксама навісла над Беларусьсю, і праз ганебны лукашэнскі гандаль сувэрэнітэтам мацнее пагроза для нашай дзяржаўнай незалежнасьці з боку шавіністычнай Расеі – барацьба Слуцкіх змагароў зьяўляецца для нас найпершым прыкладам у дзеяньнях па абароне Бацькаўшчыны.

І ў Дзень Герояў, і ў кожны іншы дзень будзем памятаць пра гэты высакародны чын збройнай барацьбы і будзьма гатовыя да змаганьня за нашу вольную Бацькаўшчыну – Беларусь!

Шануем мужнасьць і адвагу Слуцкіх Змагароў, шануем памяць пра іх подзьвіг.

Гонар іх памяці! Жыве Беларусь!

# Чаму леваки так любяць іслам

Аналізуючы падзеі ў сьвеце апошніх дзесяцігодзьдзяў, узьнікае ўражаньне, што кіраўнікі амэрыканскай дзяржавы настойліва імкнуцца зацягнуць амэрыканцаў падтрымліваць у міжнародных канфліктах той ці іншы бок, нягледзячы на тое, што ні адзін з тых бакоў, часта, ня варты падтрымкі. Гэта клясычная стратэгія дэстабілізацыі і глябалізацыі, якая нагадвае Першую сусьветную вайну. Кожны раз, калі амэрыканцы пачынаюць аб'ядноўвацца вакол сваёй уласнай культуры, уласнай бясьпекі і імкнуцца вырашыць свае ўласныя праблемы, раптам узьнікае замежны канфлікт, які чамусьці патрабуе іхняга ўмяшаньня.

Шмат каму гэта падасца нязначным, але пасьля шматгадовых намаганьняў ультралевых па дэканструкцыі ЗША узьнікла адваротная рэакцыя, якая набірае сілу. Папулярнасьць ідэяў BLM рэзка зьніжаецца, унівэрсытэты, дзе запраўляюць пракамуністычныя прафэсары, пакутуюць ад зьніжэньня абітурыентаў і паніжэньня рэйтынгаў, абуджаны Галівуд гарыць, а іхныя прыбыткі зьніжаюцца, падтрымка тэмы транссэксуалаў ўжо не дапамагае, а перашкаджае палітыкам, і многія штаты блякуюць іхныя намаганьні дазволіць усынаўляць і выхоўваць дзяцей, і ўвага грамадзтва вяртаецца да небясьпекі палітыкі адкрытых межаў дэмакратаў, і большасьць амэрыканцаў сёньня патрабуе, каб нешта ў гэтым кірунку было зроблена.

Што ж цяпер рабіць дзяржаўнаму істаблішмэнту? А тое, што рабілі заўжды – уцягваць насельніцтва ў чарговую замежную авантуру. Тады ўвага і рэсурсы накіруюцца на чужую зямлю, замест таго, каб абараняць амэрыканскія межы.

Многія кансэрватары непазьбежна аддадуць перавагу Ізраілю перад Палестынай, і нездарма: ісламская культура і ідэалогія шарыяту цалкам несумяшчальныя з традыцыйнымі заходнімі каштоўнасьцямі, яны дэструктыўныя ў пераважна хрысьціянскіх краінах. Людзі падтрымаюць Ізраіль, таму што ён разглядаецца як “меншае з двух зол”. Аб тым праўда гэта ці не, можна спрачацца, але існуе мноства гістарычных выпадкаў, якія пацьвярджаюць, што Ізраіль адказны саюзьнік. Зноў жа, мы ўсе бачылі, што масавая мусульманская іміграцыя зрабіла ў Эўропе з рэзкім ростам крадзяжоў, гвалту і тэрарыстычных нападаў.

Незалежна ад таго, які бок, на вашу думку, мае рацыю ў цяперашнім канфлікце, важна разумець, што ісламская культура разглядае Захад як сасьпелы плод, які трэба сарваць і зьесьці. Яны разглядаюць заходніх людзей як быдла і вераць, што іх рэлігія прызначана для таго, каб перамагчы і заваяваць Захад. Магчыма, ізраільцяне могуць думаць гэтак жа, але яны не спрабуюць мігараваць сюды дзясяткамі мільёнаў.

Менавіта гэты мэнталітэт пранікненьня і падпарадкаваньня сярод мусульманаў так падабаецца палітычным левым. Як мы бачылі нядаўна, у гарадах ЗША адбыліся шматлікія дэманстрацыі ў падтрымку палестынцаў, і бальшыня ўдзельнікаў гэтых падзеях НЕ зьяўляюцца мусульманамі. Хутчэй, гэта тыя самыя левыя экстрэмісты, якія падтрымлівалі беспарадкі BLM. Гэта тыя самыя людзі, якія вар'яцеюць і сыходзяць пенай на любыя спробы закрыць паўднёвую мяжу. Гэта тыя самыя людзі, якія патрабуюць гендэрнай індактрынацыі ў дзяржаўных школах. І яны складаюць асноўную частку прапалестынскіх пратэстаў.



Але чаму? Мусульманская культура супрацьлеглая прагрэсіўнай ідэалогіі. Калі б лявак прапагандаваў адно са сваіх перакананьняў у ісламскай краіне, яго пасадзілі б у турму або забілі камянямі. Паміж заходнімі прагрэсістамі і ісламам проста няма перасячэньня. Дык чаму яны працуюць разам? Гэты дзіўны альянс можна аднесьці да таго, што называюць “узаемнай эксплюатацыяй”. Мусульмане разглядаюць палітычных левых як ключ да адкрыцьця дзьвярэй на Захад, свайго роду вартаўніка, які махне рукою любому госьцю без папярэдняй праверкі. Левыя – гэта шчыліна ў брані, слабае месца ў агароджы, якім карыстаюцца ісламскія групы. Але як жа левыя? Што яны могуць атрымаць ад сувязі з групаю, якая прагне іхняй сьмерці?

Левыя любяць іслам менавіта таму, што ён ёсьць антыподам усяму, за што выступае заходні сьвет. Каб зразумець левых, трэба ведаць асновы культурнага марксізму. Гэтая ідэалёгія імкнецца сабатаваць існуючыя культуры і цывілізацыі як сродак для стварэньня хаосу. Затым гэты хаос выкарыстоўваецца як прыкрыцьцё для ўвядзеньня сацыялістычных/камуністычных сыстэмаў у якасьці “рашэньня”. У выпадку першапачатковых марксістаў стратэгія была ў тым, каб справакаваць рабочую клясу на паўстаньне супраць заможных клясаў. Культурныя марксісты выкарыстоўваюць падобны мэтад распальваньня грамадзянскіх хваляваньняў сярод “маргіналізаваных”, але яны менш засяроджваюцца на эканоміцы, а больш на сацыяльных і культурных падзелах.

Іншымі словамі, раса, рэлігія, сэксуальнасць і г. д. – іх хлеб з маслам. Левыя (і, вядома, глябалісты) разглядаюць меншасьці як гарматнае мяса, якое можна кідаць у любое грамадзтва, пакуль яно не разбурыцца. Большасьць левых псыхічна і фізычна слабыя, і, нягледзячы на ўсе стараньні, яны ўсё роўна ведаюць, што, калі яны ўступяць у прамую грамадзянскую вайну, то іх зьнішчаць за некалькі дзён. Яны ня здольныя самастойна весьці вайну ці рэвалюцыю. Таму яны быццам бы клапацяцца праблемамі іншых групаў, каб выкарыстоўваюць гэтыя групы ў якасьці сілавікоў.

У выпадку мусульманскіх экстрэмістаў у левых цячэ сліна, бо ім патрэбныя фанатычныя мускулы; ім патрэбныя групы людзей, якія гатовыя забіваць дзеля іх справы, і мусульманскія экстрэмісты, безумоўна, гатовыя гэта рабіць. Кансэрватары і патрыёты звычайна ня думаюць прадажнымі катэгорыямі. Яны вераць у вядзеньне сваіх бітваў і змаганьня па пэўных прынцыпах. Левыя так ня думаюць. Ім важная толькі перамога. Яны клапоцяцца толькі пра ўладу, і ім усё роўна, што яны павінны зрабіць для дасягнення сваіх мэтаў.

Левыя супрацоўнічаюць з ісламам, таму што ў іх няма ніякіх прынцыпаў, якія абмяжоўваюць іхныя паводзіны, або маралі, якая перашкаджае ім ствараць альянсы. У сьвядомасьці левых мусульманскі закон шарыяту ня ёсьць перашкодаю зьдзелкі, таму што на дадзены момант мусульмане ім карысныя. Яны, магчыма, пашкадуюць аб сваім рашэньні заўтра, але сёньня яны вераць, што цяпер маюць доступ да новых сілаў меншасьці, якія прынясуць Захаду хаос.

Што тычыцца глябалістаў, то яны спадзяюцца, што новыя беспарадкі ў краіне і наступствы шырэйшай вайны на Блізкім Усходзе будуць адцягваць увагу амэрыканскіх патрыётаў на доўгія месяцы і не дадуць ім арганізавацца.

***Я. З.***

## Беларусь – Амэрыка: лёсы землякоў

# В. Пануцэвіч - гісторык, палітычны і рэлігійны дзеяч

Вацлаў Пануцэвіч, гісторык і дзеяч заходнебеларускага нацыянальнага руху, а пазьней актывіст беларускай грамады ў Амэрыцы, нарадзіўся ў вёсцы Малая Альшанка каля Горадні (паводле іншых звестак – у в. Гожа каля Горадні) у канцы 1910 або напачатку 1911 г. Ён выступаў у друку пад псэўдонімамі й крыптонімамі Мікола Волаціч, Volacic Mikola, Volacic M.; В. П. Сапраўднае ягонае прозьвішча да 1945 году было Папуцэвіч.

Ён паходзіў з сям'і беларусаў-каталікоў. Вучыўся ў Віленскай духоўнай каталіцкай сэмінарыі. Быў выключаны зь ліку клірыкаў за беларускую дзейнасць. З 1936 году ён вучыўся на юрыдычным факультэце Ўнівэрсытэта Стэфана Баторыя ў Вільні.

В. Пануцэвіч браў удзел у працы "Акадэміцкага кола сяброў Беларусаведы" (1936—1939). Адзін з арганізатараў "Руху маладых адраджэнцаў". З 1935 г. сябар БХД. Са сьнежня 1935 г. Пануцэвіч быў сябрам рэдкалегіі "Студэнцкай Трыбуны", маладзёвага дадатку да газэты БХД "Беларуская Крыніца". Ён таксама быў рэдактарам часапісу "25 Сакавіка" (лістапад 1936 – сакавік 1938). Зь лютага 1936 г. ён быў сакратаром Віленскага аддзелу Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры (БІГіК).

Пасьля расколу БХД у 1936 г. належаў да "Беларускага фронту" ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага. Браў удзел у выданьні газэты "Беларускі Фронт". Перасьледваўся польскімі ўладамі, і за надрукаваны рэдакцыйны артыкул "Залежнасьць ці незалежнасьць" у № 3 "Беларускага Фронту" за 30 жніўня 1938 г. быў асуджаны на год турмы ўмоўна.

Напачатку Другой сусьветнай вайны ў верасьні 1939 году ён быў мабілізаваны ў 81-ы стралковы полк, які фармаваўся ў Горадні. 22 верасьня 1939 году, як Саветы занялі Горадню, трапіў у палон, але неўзабаве быў вызвалены й жыў у Горадні.

Падчас нямецкай акупацыі В. Пануцэвіч браў удзел у беларускім нацыянальным руху і кантактаваў з кс. Вінцэнтам Гадлеўскім у справе стварэньня й дзейнасьці Беларускай Нацыянальнай партыі (БНП). Разам з Язэпам Малецкім ён сустракаўся з гродзенскім япіскапам Антоніем у справе беларусізацыі праваслаўнай царквы і арганізацыі ў Горадні беларускай праваслаўнай сэмінарыі. Паводле Я. Малецкага, кандыдатура Пануцэвіча разглядалася мясцовымі нямецкімі ўладамі на пасаду бургамістра Горадні. У сярэдзіне лістапада 1941 году В. Пануцэвіч пераехаў у Баранавічы і да чэрвеня 1944 году працаваў у адміністрацыі акругі Баранавічы.

У ліпені 1944 году выехаў у Нямеччыну. Там жыў у лягерах ДП, дзе займаўся арганізацыяй скаўтынгу. У канцы 1949 годзе Пануцэвіч пераехаў у ЗША і пасяліўся ў Чыкага. Ён адразу далучыўся да актыўнага ўдзелу ў грамадзкім і культурніцкім руху беларусаў Чыкага й штату Ілінойс.

В. Пануцэвіч узначальваў Задзіночаньне Беларускіх Скаўтаў на Чужыне. Ён быў кіраўніком скаўцкай дружыны "Арлы" ў Чыкага. У 1950 годзе ён стаў сакратаром Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады, а з траўня 1950 году – віцэ-старшынём Беларуска-Амэрыканскага Каталіцкага Таварыства. Згодна словаў Вітаўта Кіпеля, належыў да групы дзеячоў, што імкнуўся арганізаваць беларускі каталіцкі рух у ЗША.

У пачатку 1960-х гадоў В. Пануцэвіч заснаваў выдавецтва "Беларуская выдавецкая сябрына". Ён выдаваў рэлігійна-гістарычныя часопісы: "Беларуская царква" (публікаваўся кірыліцай), "Літва" (публікаваўся лацінкай).

В. Пануцэвіч быў жанаты з дачкою выбітнага беларускага дзеяча Эдварда Будзькі Ірэнай.

В. Пануцэвіч пакінуў па сабе надзвычай багатую творчую спадчыну. Ён апрацоўваў і выдаваў казкі, чытанкі, пераклаў на беларускую мову "Падарожжа Гулівера ў краіну Волатаў" Дж. Суыфта, напісаў некалькі працаў па беларускім скаўтынгу. Асноўнай сфэрай ягоных зацікаўленьняў была гісторыя Беларусі. Сярод ягоных твораў такія публікацыі, як "Крывіцкая этнаграфічная прастора", "З гісторыі вышэйшых школ у Беларусі. 1. Віленская акадэмія", "Пачаткі хрысьціянства на нашых землях", "Плян Агінскага 1811 г.", "Сьв. Афрасіньня Полацкая", "З гісторыі Беларусі альбо Крывіччыны-Літвы", "Вінцэсь Гадлеўскі...", "Літва і Беларусь", "Берасьцейская вунія", "Сьвяты Язафат Кунцэвіч", "Паўстаньне 1863 на Беларусі" ды інш. Большасьць ягоных кнігаў выйшла невялікім накладам, сталі рарытэтамі і вымагаюць перавыданьня.

Частка твораў В. Пануцэіча была перавыдадзеная ў Беларусі. У 1993 г. у часапісе "Спадчына" у скарочаным выглядзе друкавалася ягоная праца "Вінцэсь Гадлеўскі – дзяржаўны муж і праваднік народу". Вуніяцкае выдавецтва ў Полацку перадрукавала ў 2000 годзе ягоную працу "Сьвяты Язафат, архіяпіскап Полацкі". Былі таксама перавыдадзеныя ягоныя творы з гісторыі царквы: "Сьв. Афрасіньня Полацкая", "Берасьцейская вунія", а таксама раней не друкаваны рукапіс "Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква".

Памёр Вацлаў Пануцэвіч 25 жніўня 1991 году ў Чыкага, пахаваны на могілках Сьв. Адальбэрта ў Найлсе каля Чыкага.

Дзейнасьць і творчасьць Вацлава Пануцэвіча яшчэ чакаюць на грунтоўны досьлед.

***Віталь ЗАЙКА***



Каляндар Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "ПАГОНЯ" на 2024 год



Разам са сьнежаньскім нумарам "Вестак і Паведамленьняў" падпісчыкі атрымаюць **каляндар Згуртаваньня "Пагоня" на 2024 год**. Тыя асобы, хто захоча мець больш чым адзін асобнік гэтага календара, могуць яго замовіць на сайце ***e-krama.com***. Кошт аднаго календара разам з дасылкаю ў межах ЗША **$15**, з дасылкаю ў Канаду **$17**, ва ўсе іншыя краіны сьвету **$20**.

Замовы таксама можна дасылаць поштаю на адрас:

***Marat Klakotski/ P. O. Box 3225/ Farmingdale, NY 11735***

Чэкі выпісвайце на імя **Marat Klakotski**.




# Запрашаем на прэзэнтацыю

## літаратурнага альманаху беларускіх пісь-меньнікаў замежжа “БЕЛАРУС” за 2023 год,

якая заплянаваная на **10-га сьнежня 2023 году** ў грамадзкай залі сабору Сьв. Кірылы Тураўскага па адрасу:

***401 Atlantic Ave***
***Brooklyn, NY 11217***

Пачатак імпрэзы **а 12.30** гадзіне папаўдні, там можна будзе набыць новы нумар па зьніжанаму кошту. Падтымайце аўтараў і выдаўцоў сваёй зацікаўленасьцю.

Кошт сёлетняга нумару з дасылкаю ў межах ЗША і Канады **$22**, з дасылкаю ў краіны Эўропы **$25**. Дасылка ў Беларусь, Украіну й Расею сёньня, немагчымая.

Замовы, калі ласка, дасылайце поштаю на адрас:

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***.

Чэкі выпісвайце на імя рэдактара і выдаўца ***Marat Klakotski.***

Новы выпуск альманах “Беларус” можна таксама замовіць на ўэб-сайце ***e-krama.com.*** Там жа можна набыць і ўсе папярэднія нумары альманаха, пачынаючы ад 2007 году, а таксама беларускія кнігі і календар Згуртаваньня “Пагоня”.



# Шаноўныя беларусы і беларусачкі,

шчыра запрашаем Вас і вашых дзетак узяць удзел у Шчадроўках!

Былі часы, калі ў Беларусі хадзілі ад хаты да хаты калядаваць. Вадзілі з сабою казу ды мядзьведзя, гучна сьпявалі песьні, гулялі ды таньчылі, частавалі адзін аднаго прысмакамі. Прапануем вам сваю беларуска-амэрыканскую вэрсію такога сьвяткаваньня, каб разам адзначыць вясёлыя сьвяты, а таксама паказаць нашым маленькім дзеткам прыгожыя і цікавыя традыцыі нашай багатай беларускай культурнай спадчыны.

Прыяжджайце ў суботу **6 студзеня 2024 году** а **12-й** дня на адрас:

***1 Westerly Road***
***Ossining, NY 10562***

у ***Ossining Boat and Canoe Club***, што знаходзіцца каля парку **Louis Engel Park**.
У выпадку моцнага сьнегу перанясем сьвята на нядзелю 7 студзеня.

Вас чакаюць традыцыйныя калядныя аладкі з прысмакамі, Шчадроўкі, гульні, конкурсы, танцы, падарункі дзеткам ды сапраўдны абрад Жаніцьба Цярэшкі. Калі можаце і жадаеце, прыносьце свае стравы да агульнага стала падзяліцца з калядоўшчыкамі ў шчодры вечар!

Кошт увахода дарослым і дзецям ад 14 гадоў: **$20.**
Калі ласка, апранайцеся сьвяточна ці з элемэнтамі беларускага арнамэнту.

Да сустрэчы на Шчадроўках!

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

**У. Бялаблоцкі ............60**
**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня”** ***Viktar Yedzinovich.***

Аб імпрэзах, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, а таксама пра бягучыя падзеі ў жыцьці арганізацыі можна даведацца наведаўшы старонку “Пагоні” ў Фэйсбуку:
***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”* ***Viktar Yedzinovich.***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні* :**

**А. Агееў ..................30**
**У. Бялаблоцкі ............30**
**В. Біліда ..................30**
**В. Чарняк .................30**
**Я. Кацярыніч .............20**
**Усім шчыры дзякуй!**

*Паважаны **Яўген Кобак,** калі ласка, паведаміце рэдакцыі ваш дакладны паштовы адрас.*

*Электронны варыянт бюлетэня можна знайсьці ў інтэрнэце на сайце* ***e–krama.com***